№ 24 (96)
Сьнежань 2001

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"




# Год няспраўджаных надзеяў

Сум у вачах гэтага сталага беларуса – зьнешне дужа падобнага да сусьветнавядомага пісьменьніка Васіля Быкава, які трымае партрэт зьніклага больш за два гады таму генерала Ю.Захаранкі і бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяжок, большасьці грамадзянаў Беларусі абсалютна зразумелы. Як і нясьмелая рашучасьць у падцятых вуснах. Як і прыхаваны страх у павароце галавы: што там? Ці не бягуць амапаўцы альбо "людзі ў цывільным" хапаць удзельнікаў "Ланцуга неабыякавых людзей", у якім ён стаіць...

Менавіта яны: рашучасьць ды страх, надзея ды сум і суправаджалі нас усіх на працягу 2001 году. Нашым надзеям не дадзена было збыцца, наш страх за будучыню сваіх дзяцей і роднага краю застаўся. Як засталіся сум і рашучасьць. І вера, што нашая барацьба з таталітарызмам, за дэмакратычныя зьмены ў краіне недарэмная – яна нарэшце дасьць плён і Беларусь годна зойме пачэснае месца ў сям'і еўрапейскіх народаў.

## Хроніка

**12 сьнежня ў Мінскім гарадзкім судзе распачаўся працэс над удзельнікамі "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка 1999 году — *Глебам Догілем, Германам Сушкевічам, Антонам Лазаравым* і *Андрэем Валабуевым*. Глеба Догіля, Германа Сушкевіча, Антона Лазарава і Андрэя Валабуева затрымалі пасьля Маршу Свабоды 17 кастрычніка 1999 году. Іх абвінавацілі ў тым, што яны падчас разгону дэманстрацыі нібыта кідалі камяні ў салдатаў унутраных войскаў. Хлопцаў абвінавачваюць у злосным хуліганстве і арганізацыі масавых беспарадкаў. Усе абвінавачаныя зьехалі ў Польшчу і там атрымалі палітычны прытулак, таму іх судзяць завочна. Усе ўладкаваліся на вучобу і цяпер вучацца ў Варшаўскім, Беластоцкім і Кракаўскім унівэрсітэтах.**

***14 сьнежня*** **беларускі ўрад прыняў пастанову "Аб мерах па абароне правоў прафесійных саюзаў", паводле якой забараняецца цэнтралізаванае пералічэньне праз бухгалтэрыі дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў сяброўскіх складкаў грамадзянаў на рахункі прафсаюзных арганізацыяў. Лідэры беларускіх прафсаюзаў лічаць, што такое рашэньне ўраду "супярэчыць усім міжнародным нормам і рэкамендацыям Міжнароднай арганізацыі працы" і "мае на мэце разбурэньне прафсаюзных арганізацыяў", а гэта, на іх думку, зьяўляецца "парушэньнем правоў грамадзянаў Беларусі, якія аб'ядноўваюцца ў прафесійныя саюзы дзеля абароны сваіх працоўных інтарэсаў". На думку незалежных назіральнікаў, ініцыятыва ў прыняцці пастановы належыць Аляксандру Лукашэнку, які "мае вострую непрыхільнасьць да прафсаюзаў".**

*(Працяг на стар. 6)*

# Выбраў сьмерць...

## 20 сьнежня ў Гомелі ў выніку шантажу з боку супрацоўнікаў КДБ быў даведзены да самазабойства 24-гадовы актывіст руху "Зубр" Андрэй Зайцаў

Андрэй Зайцаў разьвітаўся з жыцьцём 20 сьнежня, калі ў Беларусі афіцыйна адзначаўся Дзень супрацоўнікаў дзяржаўнай бясьпекі. За некалькі дзён да трагедыі ён аднёс заяву аб абароне сваіх канстытуцыйных правоў у гомельскае аддзяленьне БХК. У заяве Андрэй напісаў: "На мяне быў зроблены маральны ціск з элементамі шантажу з боку старэйшага лейтэнанта УКДБ па Гомельскай вобласьці Еўсьцігнеева Алеся Віктаравіча з мэтай прыцягненьня мяне да супрацоўніцтва з КДБ у якасьці сакрэтнага супрацоўніка для атрымання інфармацыі пра грамадзка-палітычныя арганізацыі Рэспублікі Беларусь"...

Андрэй Зайцаў трапіў пад увагу КДБ яшчэ ўвесну, калі супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа: ён сустракаўся з дзяўчынай-дзесяцікласьніцай, бацькі якой не ўхвалялі іхніх адносінаў. Яны падалі заяву ў міліцыю, паводле якой і была ўзбуджаная крымінальная справа па арт.168 КК РБ (полавыя зносіны з асобай, якая ня мае 16-гадовага ўзросту). У жніўні гэтага году прайшоў суд, але прысуд быў апраўдальным: судова-медыцынская экспертыза паказала, што полавай сувязі паміж Андрэем і дзяўчынай не было.

Пасьля гэтага, нягледзячы на апраўдальны прысуд, Андрэя пачалі ўціскаць кампетэнтныя органы і на яго зноў, ужо ад імя трэцяй асобы, была пададзеная заява ў міліцыю. У канцы кастрычніка зноў была распачатая крымінальная справа. А ў пачатку сьнежня на Андрэя выйшаў супрацоўнік КДБ А. Еўсьцігнееў. Іх першая сустрэча адбылася ў ваенкамаце. Супрацоўнік КДБ пагражаў, казаў, што калі Андрэй адмовіцца стаць асьведамляльнікам, дык вынік крымінальнай справы будзе для яго вельмі благім.

Андрэй катэгарычна адмовіўся ад супрацоўніцтва з органамі. Як вынік суд вынес рашэньне: асудзіць яго да трох месяцаў арышту з адтэрміноўкай.

Але і пасьля гэтага Еўсьцігнееў увесь час тэлефанаваў Андрэю. Адну з такіх размоваў А. Зайцаў запісаў на магнітафонную стужку. Цытуем:

*Андрэй:* "Я проста кажу апошні раз, калі захочаце са мною сустрэцца, толькі праз позву, праз ваша аддзя-леньне Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Афіцыйна".

*Супрацоўнік:* "Абавязкова. А чаго гэта ты так? Кансультаваўся з кім-небудзь?"

*Андрэй:* "Ды не, не кансультаваўся. Проста мне ўжо ўсё надакучыла. Я не хачу здаваць сваіх".

*Супрацоўнік:* "Не хочаш здаваць сваіх? А ты хіба кагосьці здаваў?"

*Андрэй:* "Не! І не хачу!"

*Супрацоўнік:* "Дык можа сустрэнемся, пагутарым? Чаго ты? Цябе ніхто не будзе хапаць. Нічога. Што ты так палохаешся? На якой падставе?"

*Андрэй:* "Ну, а навошта? Навошта сустракацца, гутарыць?"

*Супрацоўнік:* " Ці ты не мужык? Ты за свой "базар" не адказваеш? Я табе кажу: давай сустрэнемся, а ты сустракацца не хочаш".

*Андрэй:* "А якая мэта сустрэчы? Навошта нам сустрэча..."

Пра тое, што Андрэй зрабіў гэты запіс размовы, стала вядома супрацоўнікам КДБ, і 15 сьнежня, калі ён выходзіў з пад'езду, хтосьці ўдарыў яго па галаве і забраў касету, што ляжала ў ягонай сумцы. Але злачынцу не пашанцавала: на той стужцы была толькі музыка.

Невядома, якія менавіта падзеі прымусілі Андрэя скончыць жыцьцё самагубствам, але са словаў маці, апошнія дні сын быў чымсьці ўзрушаны, напалоханы. Мітусіўся, хадзіў кудысьці... Аднак, непадобна, што зьбіраўся разьвітацца з жыцьцём. Нават набыў новую запальнічку і блок цыгарэтаў, каб узяць з сабой у ізалятар.

Але 20 сьнежня, прыйшоўшы дамоў, маці ўбачыла, што сын павесіўся...

Сябры Андрэя, ягоныя паплечнікі па супраціву маюць намер правесьці незалежнае расьсьледаваньне абставінаў ягонай сьмерці.

Адным з першых крокаў на шляху да гэтага стала акцыя пратэсту супраць запалохваньня, вярбоўкі і шантажу беларускай моладзі Камітэтам дзяржбясьпекі, якая прайшла на праспекце Скарыны ў Мінску насупраць будынку беларускага КДБ. Дваццаць актывістаў руху супраціву "Зубр" сталі ланцугом перад будынкам з партрэтамі Андрэя Зайцава. Актывісты "Зубра" ўсьведамлялі, чым можа скончыцца акцыя пратэсту каля адной з самых ахоўваемых у краіне установаў, патрабавалі ад КДБ адказу за загубленае жыцьцё іхняга сябра. Міліцыя адносна ўдзельнікаў ніякіх дзеяньняў не прадпрымала. Супрацоўнікі КДБ на пікет ніяк не адрэагавалі, да хлопцаў з партрэтамі ніхто ня выйшаў.

За паўгадзіны да акцыі "зубры" правялі прэс-канферэнцыю, дзе распавялі падрабязнасьці таго, што адбылося з Андрэем Зайцавым. У прэсавай канферэнцыі прымалі ўдзел актывісты руху, якіх у свой час таксама спрабавалі завербаваць супрацоўнікі КДБ.

Міліцыянты спрабавалі сарваць прэс-канферэнцыю: на месцы збору журналістаў стаялі два "варанкі" і аўтобус з танаваным шклом. Каля дзьвярэй кватэры, дзе праходзіла прэс-канферэнцыя, стаялі амапаўцы...

Нягледзячы на гэта, прэс-канферэнцыя адбылася. Рух супраціву "Зубр" распаўсюдзіў заяву, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца:

"20 сьнежня 2001 году ў Гомелі, у выніку шантажу з боку Камітэту дзяржаўнай бясьпекі быў даведзены да самагубства актывіст руху "Зубр" Андрэй Зайцаў. Ён быў любімым сынам сваёй маці, патрыётам Беларусі,

*(Працяг на стар. 7)*

# Пацярпелі за веру ў "добрага цара"

20 сьнежня каля рэзідэнцыі А. Лукашэнкі адбыўся несанкцыянаваны пікет чатырох жанчын – жыхарак г.Бабруйску: Любові Санкевіч, Евы Усьцімчык, Галіны Гусевай і Яніны Аўсянік. Пікетчыцы трымалі ў руках некалькі плакатаў, на адным з якіх было напісана: "Паважаны Прэзідэнт, перакаНаўча просім Вас прыняць чатырох жанчын з Бабруйску". Пікет працягваўся ўсяго каля трох хвілінаў. Аднак, нягледзячы на тое, што жанчыны адразу выканалі патрабаваньні супрацоўнікаў міліцыі, яны былі затрыманыя і дастаўленыя ў ГАМ Ленінскага раёну г.Мінску. Там на жанчынаў склалі пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні па ч. 2 арт. 167.1 КаАП РБ. Матэрыялы адміністратыўных справаў былі перададзеныя ў суд Ленінскага раёну г. Мінску. Справу разглядаў судзьдзя А.Шылько. Згодна з вынесенымі пастановамі Л. Санкевіч і Е. Усьцімчык атрымалі адміністратыўнае спагнаньне ў выглядзе арышту тэрмінам на 10 сутак, а Г. Гусева і Я. Аўсянік – штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў.

Л. Санкевіч і Е. Усьцімчык былі дастаўленыя ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік па вул. Акрэсьціна, аднак супрацоўнікі міліцыі адмовіліся прымаць іх, бо Л.Санкевіч пакутуе на язву страўніка, а ў Е.Усьцімчык ад перажытага стрэсу падняўся ціск. Жанчынам выклікалі "хуткую дапамогу", якая адвезла іх у адзін са шпіталяў сталіцы.

"Шукаць праўду ў добрага цара" ў Мінску, жанчын прывяло тое, што, па іхніх словах, на прадпрыемстве БЗТДіА г. Бабруйску няправільна разьмяркоўваецца жытло. Я.Аўсянік гаворыць: "Майго мужа, які адстаяў 16 гадоў у агульнай чарзе, нягледзячы на тое, што ў нас у сям'і выхоўваецца дзіцёінвалід 4 ступені і мы маем патрэбу ў ільготах, абышлі самым нахабным чынам." Г.Гусева зьяўляецца шматдзетнай маці, яна выхоўвае пяцёра дзяцей і будавала кватэру за ўзяты ў 1991 годзе крэдыт, аднак будоўля была спыненая ў 1997 годзе, і сям'я засталася без жытла і грошай на існаваньне.

Усе чацьвёра ўжо праводзілі акцыю пратэсту. З 13 па 22 жніўня яны пікетавалі і галадалі на пляцы Леніна ў г.Бабруйску. За гэта яны былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці па ч. 1 арт. 167.1 КаАП РБ. Тады ім вынесьлі папярэджаньні.

Аднак іх пытаньні не былі вырашаныя, і гэта падштурхнула жанчын да паездкі ў Мінск. Зараз аштрафаваным пагражае канфіскацыя маёмасьці, а асуджаныя на 10 сутак жанчыны, верагодна, пасьля папраўкі здароўя, будуць адбываць свой арышт пазьней.

# Каб пазьбегнуць канфліктаў

***19-22 сьнежня ў Маскве адбылася чарговая сустрэча Працоўнай групы Няўрадавых арганізацыяў СНД па папярэджаньні і ўрэгуляваньні канфліктаў. Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабаронцы цэнтр "Вясна "зьяўляецца ўдзельнікам гэтай групы з 2000 году. А таму ў сустрэчы ўзялі ўдзел і супрацоўнікі "Вясны".***

Асноўная мэта Працоўнай групы – спрыяньне ўрэгуляваньню і папярэджаньню канфліктаў на тэрыторыі СНД. Важнейшы накірунак дзейнасьці – правядзеньне міратворчых акцыяў і аказаньне дапамогі недзяржаўным арганізацыям у распрацоўцы і рэалізацыі канкрэтных праектаў, накіраваных на вырашэньне канфліктаў, а таксама абмен інфармацыяй.

19 сьнежня на сустрэчы Працоўнай групы каардынатар па Заходнім СНД (Украіна, Малдова, Беларусь) Юлія Цішчанка выступіла са справаздачай за 2001 год, на працягу якога ажыцьцяўляліся інфармацыйныя рассылкі, падтрымліваліся маральна і фінансава мікрапраекты на рэгіянальным узроўні.

Так, прадстаўнік Аб'яднанага камітэту па дэмакратызацыі і прымірэньні ў Малдове Юрый Атаман ажыцьцявіў маладзёжную канферэнцыю – Малдова, Прыднястроўе, Гагаўзія.

У Крыме былі падтрыманыя адукацыйныя праграмы і праведзены круглы стол на тэму "СМІ, канфлікт – выбарчы і этнічны момант". Абмеркаваньне гэтых праблемаў стала важным таму, што Украіна цяпер знаходзіцца напярэдадні выбараў, а крымскі рэгіён, зьяўляецца для краіны сьпецыфічным і своеасаблівым: менавіта тут можна чакаць пэўных канфліктаў – абвастрэньне этнічнага фактару і ўсіх комлексных праблемаў, якія тут здаўна існуюць.

У межах Працоўнай групы таксама былі падтрыманыя міратворчыя ініцыятывы ў Прыднястроўі.

Гэта тое, што ўдалося зрабіць Працоўнай групе. А чаго ж не ўдалося? Не атрымалася рэгіянальная сустрэча, у межах якой планавалася размова з удзелам эксьпертаў пра методыкі вырашэньня канфліктаў. Таксама не ўдалося сёлета правесьці навукова-практычную канферэнцыю па праблемах нацыянальных моваў у Заходнім СНД. Гэта было зьвязана з перадвыбарчай сітуацыяй у Беларусі і складанасьцямі ў пошуку фінансаваньня. Але праект знаходзіцца на стадыі рэгіянальнага ўвасабленьня.

Юлія Цішчанка склала з сябе паўнамоцтвы каардынатара па Заходнім СНД і прапанавала на гэтую пасаду Юрыя Атамана (Малдова). Кандыдатура Юрыя Атамана была падтрыманая Працоўнай групай.

Варта адзначыць, што правядзеньне навукова-практычнай канферэнцыі на тэму канфліктаў на моўнай глебе зьяўляецца вельмі надзённай справай і асабліва для Беларусі. Справа ў тым, што ўзаемадзеяньне і суіснаваньне нацыянальных моваў у варунках дзьвюхмоўя альбо шматмоўя (а менавіта такая моўная сітуацыя гістарычна склалася на тэрыторыі Украіны, Малдовы, Беларусі) – праблема ня толькі лінгвістычная, але і сацыяльная, палітычная, псіхалагічная. Моўнае ўзаемаразуменьне – адзін з фактараў, здольных вырашыць канфлікт. У сувязі з гэтым праблема разьвіцьця, суіснаваньня і ўзаемадзеяньня нацыянальных моваў у краінах Заходняга СНД патрабуе комлекснага і ўсебаковага дасьледаваньня.

Нацыянальная мова – вынік гістарычнага жыцьця народа, які вызначае нацыянальную будучыню. Тым ня менш пагроза існаваньню нацыянальных моваў на Украіне, Малдове, Беларусі ўзьнікала перыядычна. І ў гэтай перыядычнасьці былі свае заканамернасьці. Так, у час існаваньня СССР дамінуючай мовай была руская. Менавіта руская мова вызначала іерархію моўнага суіснаваньня і ўзаемадзеяньня. У 1991 годзе гэтая іерархія была зруйнаваная. Пачала фармавацца новая іерархія, і ў працэсе яе фармаваньня нацыянальныя мовы сталі канкураваць з рускай мовай (носьбіты якой не жадалі мірыцца са стратай дамінуючай ролі. На моўнай глебе пачалі ўзьнікаць канфліктныя сітуацыі.

Урэгуляваньне этнічных канфліктаў, натуральна, патрабуе ўліку ўсяго сьпектру міжнацыянальных зносінаў. Але ў тым выпадку, калі моўная праблема не знаходзіць вырашэньня для носьбітаў мовы, то міжнацыянальны канфлікт робіцца перманентным, нават можа перарастаць у адкрытыя ваенныя дзеяньні. Пакуль моўная праблема ня вырашаная, канфлікту не пазьбегнуць, ён будзе ўзьнікаць зноў і зноў, абрастаючы новымі ўзаемнымі прэтэнзіямі ды крыўдамі.

Праблема статусу мовы яскрава альбо неяскрава, але заўсёды прысутнічае ў міжнацыянальных канфліктных сітуацыях. А пры разьвіцьці сітуацыі да ўзроўню адкрытых канфліктных дзеяньняў, моўная праблема здольная стаць адной з галоўных і цяжкавырашальных задачаў па ўрэгуляваньні канфлікту. Таму, улічваючы фундаментальнае значэньне мовы, неабходна мінімізаваць уплыў моўных праблемаў на фармаваньне канфліктнай сьвядомасьці.

У сувязі з гэтым і ўзьнікае неабходнасьць правесьці навукова-практычную канферэнцыю па гэтых праблемах. Падчас яе сустрэліся б палітолагі, філолагі, псіхолагі і прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў Украіны, Малдовы, Беларусі.

У ходзе навукова-практычнай канферэнцыі яны мелі б магчымасьць абмеркаваць:

— праблему разьвіцьця, узаемадзеяньня і суіснаваньня нацыянальных моваў а таксама моўны фактару кантэксьце праблемы канфлікту і ўзаемаразуменьня;

— дасьледаваць перспектывы разьвіцьця нацыянальных моваў у працэсе іх суіснаваньня і ўзаемадзеяньня.;

— вызначыць ролю сучасных моўных сітуацыяў у якасьці фактараў, якія ўплываюць на ўзровень сацыяльнай і палітычнай канфліктнасьці;

— абмяняцца станоўчым досьведам і інфармацыяй пра найбольш эфектыўныя методыкі.

Такім чынам будуць вылучаныя праблемныя сітуацыі, якія здольныя прывесьці да канфліктаў, а таксама мадэлі вырашэньняў магчымых канфліктных сітуацыяў, што ўзьнікаюць на моўнай глебе.

Юрый Атаман, новаабраны каардынатар па Заходнім СНД, падчас чарговай сустрэчы Працоўнай групы няўрадавых арганізацыяў СНД па папярэджаньні і ўрэгуляваньні канфліктаў, сказаў: "Магчыма ўжо ў наступным годзе мы ўсё ж правядзем навукова-практычную канферэнцыю пад назваю "Нацыянальныя мовы: праблемы канфлікту і ўзаемаразуменьня". І пройдзе яна ў Беларусі".

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**



Падчас нефармальнай сустрэчы прадстаўнікоў НДА Украіны, Малдовы, Беларусі.

Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"

Выступае Умар Джаўтаеў – прадстаўнік рэгіянальнага фонду "SOS – Выратаваньне" (Хасаўюрт, Чачня).

# Зрухаў да лепшага не адбылося...

## Становішча з захаваньнем правоў чалавека на Беларусі па-ранейшаму застаецца крытычным

***У 1998-2000 г.г. Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" рыхтавала і выдавала "Агляд-Хроніку парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі". Падобнае выданьне, дзе па асноўных разьдзелах будуць кваліфікаваныя і разьмешчаныя ў храналагічным парадку факты парушэньня правоў грамадзянаў у нашай краіне, выйдзе і па выніках 2001 году. Прапануем увазе чытачоў аглядны артыкул, падрыхтаваны юрыстамі ГА ПЦ "Вясна".***

Важнейшай палітычнай падзеяй 2001 году ў Беларусі, безумоўна, сталі выбары прэзідэнта краіны, якія адбыліся 9 верасьня. Дзеяньні ўладаў у адносінах да сваіх апанентаў з дэмакратычнага лагеру былі абумоўленыя выбарчай кампаніяй: у адрозьньне ад папярэдніх гадоў, міліцыянты на традыцыйных масавых акцыях апазіцыі дзейнічалі ня так жорстка – у асноўным затрымлівалі вядомых палітыкаў і найбольш актыўных удзельнікаў. Шырока практыкаваліся прэвентыўныя арышты. У якасьці санкцыі, як і раней, выступаў арт. 167-1 КаАП РБ у спалучэньні з арт. 167-2 і 166. Асноўны від пакараньня – штраф.

Масавыя акцыі, іх маштаб і характар у 2001годзе значна адрозьніваліся ад папярэдніх гадоў. Гэта было зьвязана, як з выбарамі прэзідэнта, так і агульнай зьменаю стратэгіі апазіцыйных сілаў, вычарпанасьцю мабілізацыйных і агітацыйных магчымасьцяў масавых палітычных акцыяў. Ад пачатку года назіралася дэканцэнтрацыя формаў палітычных пратэстаў з перавагай пікетаваньняў, моладзевых акцыяў, перфомансаў і г.д. Фактычна за год было праведзена толькі дзьве буйныя апазіцыйныя акцыі: 25 сакавіка "Дзень волі" і 26 красавіка "Чарнобыльскі шлях". Цэнтральнае месца сярод масавых акцыяў займаюць падзеі ў Мінску 25 сакавіка, якія сталі адзінай буйной "вайсковай" аперацыяй уладаў за год – з прыцягненьнем значнай колькасьці міліцыі, АМАП і ўнутраных войскаў. Аднак масавыя затрыманьні не праводзіліся, было арыштавана толькі 15 чалавек, сярод якіх вядомыя беларускія палітыкі. "Чарнобыльскі шлях" 26 красавіка прайшоў без сутыкненьняў. Наступнай акцыяй з вялікай колькасьцю затрыманых стаў мітынг 1 траўня ("Дзень працы"), калі ў Гародні было арыштавана каля 20-ці чалавек, і 18 траўня ў Мінску падчас гэтакзванага "Другога усебеларускага народнага сходу" – арыштавана каля 45 чалавек. Агульная колькасьць затрыманых на акцыях пратэсту, не зьвязаных з выбарамі, склала каля 130-150 чалавек. Гэта значна менш, чым у 2000 годзе, калі толькі 25 сакавіка было арыштавана больш за 200 чалавек.

Практычна ніводная масавая палітычная акцыя не была дазволеная ўладамі і праходзіла несанкцыянавана альбо па вуснай дамоўленасьці з міліцыяй, што стала ўжо на Беларусі традыцыяй.

Крымінальны перасьлед, як сродак, што адкрывае шырокія магчымасьці для палітычнага перасьледу, а таксама маніпуляваньня, традыцыйна шырока выкарыстоўваецца беларускімі ўладамі – і як пакараньне, і як форма псіхалагічнага ціску, і як сродак дзеля атрыманьня правоў на крымінальна-працэсуальныя дзеяньні ў адносінах да палітычных апанентаў (вобыскі, выняткі, допыты, канфіскацыя і г.д.). Менавіта пагроза ўзбуджэньня крымінальнае справы і крымінальна-працэсуальныя дзеяньні, якія дазваляюцца пасьля пачатку крымінальнага перасьледу, былі ў 2001г. асноўнымі формамі выкарыстаньня крымінальнага права ў палітычных мэтах.

Сярод крымінальных справаў найбольш адыёзны палітычны характар маюць узбуджаныя па артыкулах 367 і 368 КК РБ (паклёп альбо зьнявага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), якія былі ўведзеныя новым крымінальным кодэксам з 1 студзеня 2001г. У адрозьненьне ад звычайнага паклёпу і абразы ў гэтым выпадку крымінальная справа можа быць узбуджаная па ініцыятыве пракуратуры, без звароту пацярпелага.

Крымінальныя справы па арт. 368 на працягу году ўзбуджаліся ў адносінах да 8 чалавек – у г. Бабруйску супраць 5 чалавек і ў г. Шклове супраць 3 чалавек. Ніводная з гэтых справаў не была даведзеная да суда.

У 2001 годзе было ўзбуджана 6 крымінальных справаў за "графіці" – надпісы на сьценах, якія ва ўмовах абмежаванае інфармацыйнае прасторы сталі вымушанай формай палітычнага волевыяўленьня для апазіцыйных моладзевых арганізацыяў. Чатыры з іх – супраць асобаў па арт. 341 КК РБ, дзьве па факце: першая пры затрыманьні чатырох сяброў моладзевай арганізацыі "Зубр" у Мінску, другая ў г.Гомелі супраць грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" – па арт. 218 КК РБ. Чатыры чалавекі былі прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці: двое атрымалі штрафы ў памеры 100 мінімальных заробкаў, двое па два гады папраўчых работаў. Астатнія справы не былі даведзеныя да стадыі судовага працэсу, але актыўна (асабліва ў Гомелі) выкарыстоўваліся ў палітычных мэтах – вобыскі, выняткі камп'ютарнае тэхнікі, допыты і г.д.

Беспадстаўным было і ўзбуджэньне крымінальнай справы у г. Крычаве па арт. 183 ч.1 КК РБ у адносінах да супрацоўнікаў рэгіянальнай газеты "Вольны горад". Гэтая справа таксама была спыненая пасьля выбараў.

Сярод выключна палітычных крымінальных справаў трэба назваць узбуджаную па арт. 192 КК РБ у адносінах да Пятра Мігурскага – каардынатара "Незалежнага назіраньня" у г. Шклове. Гэты артыкул прадугледжвае адказнасьць сьпецыяльнага суб'екта – службовай асобы, якой каардынатар не зьяўляецца.

У канцы году было арыштавана некалькі кіраўнікоў беларускіх прадпрыемстваў і буйных прадпрымальнікаў (агульная колькасьць каля 20-ці чалавек). У прыватнасьці крымінальная справа была ўзбуджаная супраць дырэктара мінскага ЗАТ "Атлант" Л. Калугіна, які ў якасьці кандыдата ўдзельнічаў у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Сярод магчымых прычынаў хвалі арыштаў вызначаецца нелаяльнасьць да выканаўчай улады з боку затрыманых падчас выбараў прэзідэнта.

Праблема зьнікненьняў людзей у Беларусі ў 1999-2000 г.г., калі прапалі бяз зьвестак шэраг вядомых у краіне асобаў – Ю. Захаранка, В. Ганчар, А. Красоўскі, Дз.Завадзкі – па-ранейшаму хвалявала беларускае грамадзтва. У 2001г. афіцыйныя органы так і не распачалі актыўных дзеяньняў дзеля высьвятленьня абставінаў зьнікненьняў.

Рэальны судовы працяг у 2001г. мела толькі справа па зьнікненьні супрацоўніка расійскай тэлекампаніі ОРТ Дз. Завадзкага. У выкраданьні Дз. Завадзкага абвінавачваецца група асобаў на чале з былым супрацоўнікам сьпецгрупы "Алмаз" В. Ігнатовічам. Працэс які працягваецца ў Мінскім абласным судзе, нягледзячы на шматлікія просьбы і заявы грамадзкасьці, быў аб'яўлены закрытым.

На працягу году зьяўлялася дадатковая інфармацыя пра дачыненьне вышэйшых асобаў беларускай дзяржавы і магчыма прэзідэнта Беларусі да зьнікненьня апазіцыйных палітыкаў і журналіста. Гэта: сьведчаньні сьледчых пракуратуры А.Случака і Д.Петрушкевіча, якія выехалі за мяжу, сьведчаньні супрацоўніка КДБ Г. Угляніцы, дакументы, прадстаўленыя кандыдатам у прэзідэнты У. Ганчарыкам.

Жорсткае і негуманнае абыходжаньне з удзельнікамі акцыяў апазіцыі і затрыманымі зьяўляецца звычайнай практыкай для супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Аднак ніводзін з вінаватых у перавышэньні паўнамоцтваў ня быў пакараны. Па агульных дадзеных фізічнае ўзьдзеяньне ў адносінах да затрыманых па палітычных матывах ужываецца ў 5-8% выпадках, паказчык абразаў і зьневажаньня годнасьці яшчэ вышэйшы, але ён мае высокую латэнтнасьць, бо лічыцца нязначным ці нават звыклым для затрыманых. Звычайнай практыкай зьяўляецца адвольны асабісты вобыск, прэвентыўнае затрыманьне.

Зафіксавана шмат выпадкаў зьбіцьця палітыкаў і актывістаў палітычных кампаніяў неўстаноўленымі асобамі і гэтакзванымі "людзьмі ў цывільным". Даволі цяжка гарантавана сказаць пра матывы кожнага з нападаў: звычайнае хуліганцтва ці палітычна скіраваны гвалт. Характэрнай прыкметай усіх выпадкаў зьяўляецца адсутнасьць карысьлівых матываў. Некаторыя эпізоды зьвязаныя з экстрэмісцкімі групоўкамі. Астатнія – добра спланаваныя, што дае падставу пацярпелым сьцьвярджаць пра дачы-

*Друкуецца са скарачэньнямі. Поўны тэкст будзе надрукаваны ў "Аглядзе-Хроніцы..."*

 



неньне праваахоўных органаў ці сьпецслужбаў. Толькі нязначная колькасьць нападаў (каля 5%) цягнуць за сабой крымінальную адказнасьць вінаватых.

Парушэньне беларускага і міжнароднага заканадаўства, злоўжываньні падчас выбарчай кампаніі і падвядзеньня яе вынікаў, як і перасьлед удзельнікаў і актывістаў, апазіцыйных кандыдатаў у 2001 годзе мелі масавы характар. На працягу кампаніі праваахоўнымі структурамі было зьдзейсьнена больш за 1000 затрыманьняў. Затрыманьні суправаджаліся псіхалагічным ціскам, канфіскацыяй агітацыйнай літаратуры, у пэўных выпадках фізічным узьдзеяньнем, што перашкаджала працы перадвыбарчых штабаў апазіцыйных кандыдатаў.

У большасьці выпадкаў затрыманьні не фіксаваліся і арыштаваных праз некаторы час адпускалі. На астатніх складалі пратакол за парушэньне арт. 143, 156, 166, 172-1 і інш. КаАП РБ. Да адміністратыўнай адказнасьці за ажыцьцяўленьне агітацыі прыцягнута звыш 100 чалавек.

Зафіксавана 15 выпадкаў звальненьня з працы і чатыры выпадкі выключэньня з ВНУ за ўдзел у выбарчай кампаніі на розных яе стадыях, а таксама за ўдзел у грамадзкай ініцыятыве "Незалежнае назіраньне".

Шырока практыкаваўся разгон пікетаў і сустрэчаў з выбаршчыкамі апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі, нематываваныя і незаконныя забароны ажыцьцяўляць агітацыю на пэўнай тэрыторыі – звычайна блізка да адміністрацыйных установаў альбо у шматлюдных месцах.

Ціск, які аказваўся на незалежную прэсу і дзеяньні па абмежаваньні распаўсюджваньня інфармацыі выяўляўся ў такіх формах: перапыненьне і перашкоды ў распаўсюджваньні друкаваных выданьняў, канфіскацыі накладаў, ціск на незалежныя СМІ, вынясеньне папярэджаньняў на друкаваную інфармацыю, канфіскацыя кампутарнае тэхнікі, вобыскі, цэнзура.

Улічваючы структуру інфармацыйнае прасторы Беларусі, манаполію дзяржавы на электронныя сродкі інфармацыі, распаўсюджваньне газетаў стала важнай крыніцай альтэрнатыўнае інфармацыі. Затрыманьні за распаўсюджваньне зарэгістраваных газетаў мелі масавы характар. Наклады незалежных выданьняў канфіскоўваліся. Да прыкладу, 17 жніўня 2001 году было канфіскавана 216 тысячы асобнікаў газеты "Наша свабода". Арыштоўваліся наклады газетаў "Народная воля", "Рабочы", "Беларуская маладзёжная" і інш. Усе гэтыя выданьні зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку, і іх распаўсюджваньне не зьяўляецца забароненым.

На працягу году ў рэдакцыях СМІ праходзілі праверкі фінансавай дзейнасьці, вобыскі і г.д., што ў пэўных выпадках паралізавала іх працу. Канфіскацыя абсталяваньня мела месца ў адносінах да газеты "Народная Воля" і чатырох рэгіянальных выданьняў.

У 2001годзе па зыску пракуратуры была закрытая незалежная гарадзенская газета "Пагоня".

Па прызнаньні саміх супрацоўнікаў сьпецслужбаў прэзідэнцкія выбары сталі для іх комплекснай сьпецаперацыяй, якая уключала тэхнічныя, арганізацыйныя і інфармацыйныя элементы. Сьпецслужбы займаліся шчыльным праслухоўваньнем стацыянарных і сотавых тэлефонаў, праверкай карэспандэнцыі, электроннай пошты, зборам і аналізам інфармацыі і г.д.

Узбуджаныя крымінальныя справы, асабліва па факце выбуху каля расійскай амбасады, дазвалялі дапытваць вялікую колькасьць сяброў моладзевых арганізацыяў. Колькасьць дапытаных сьледчымі КДБ па справе выбуху перавысіла 100 чалавек. Допыты праходзілі і па іншых крымінальных справах, далучанасьць да якіх праводзілася адвольна. Мелі месца выпадкі канфіскацыі асабістай маёмасьці актывістаў выбарчай кампаніі.

КДБ, асабліва ў рэгіёнах, праводзіла шматлікія размовы з затрыманымі пад час моладзевых акцыяў. Сярод мэтаў працы з людзьмі былі: атрыманьне інфармацыі, аказаньне ціску, набыцьцё інфарматараў. Адзначаліся выпадкі фізічнага ўзьдзеяньня і шантажу. Шантаж з боку супрацоўнікаў КДБ прывёў да самагубства юнака ў г. Гомелі.

Моладзь зьяўлялася найбольш актыўнаю часткаю беларускага грамадзтва ў 2001годзе. Менавіта людзі ад 16 да 27 гадоў сталі групай, на якую прыпадае большасьць незаконных дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі, прэвентыўных затрыманьняў, допытаў, адміністратыўных пакараньняў, жорсткага абыходжаньня і г.д. На гэтую ўзроставую групу быў накіраваны асноўны ціск з боку КДБ, пракуратуры.

Масавыя затрыманьні моладзі былі зьвязаныя з правядзеньнем моладзевых акцыяў. Найбольш вядомыя з якіх 21 красавіка – "Дзень псіхічнага здароўя", 27 ліпеня – Дзень Незалежнасьці. Не менш масавы характар мелі затрыманьні падчас футбольных матчаў нацыянальнай зборнай Беларусі.

Асноўная маса маладых людзей прыцягвалася да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.1, а таксама 143 ч. 3 і 172-1 КаАП Беларусі, гэтыя артыкулы ахопліваюць да 90% усіх выпадкаў. Найбольш распаўсюджанае пакараньне - штраф. Арышт прымяняўся пераважна да арганізатараў, альбо калі чалавек правёў некалькі сутак у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, чакаючы суда. Агульная колькасьць адміністратыўных спагнаньняў супраць моладзіперавышае 300.

Узьдзеяньне на грамадзкія арганізацыі і палітычныя партыі на Беларусі мае дзьве асноўныя формы. Па-першае, гэта дзеяньні накіраваныя на ліквідацыю грамадзкага аб'яднаньня (партыі) і маніпуляваньне пагрозаю ліквідацыі. Зразумела, што пазбаўленьне статусу юрыдычнае асобы значна ўскладняе арганізацыйна-прававую дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў і цалкам выключае з палітычнага жыцьця партыю. Па-другое, перашкода дзейнасьці, шляхам канфіскацыі аргтэхнікі, фінансавых праверак, вобыскаў і г.д.

Ліквідацыя грамадзкага аб'яднаньня ці партыі – выключная мера ўзьдзеяньня. На працягу году па палітычных матывах было зьліквідавана некалькі арганізацыяў, у тым ліку – Задзіночаньне беларускіх студэнтаў.

Перашкода дзейнасьці шляхам праверак, вобыскаў, выняткаў і канфіскацыяў у 2001годзе была шчыльна зьвязаная з выбарчай кампаніяй.

Вострай праблемай застаецца на Беларусі рэалізацыя права на асацыяцыі. Значная колькасьць NGO, якім адмоўлена ў афіцыйнай рэгістрацыі, вымушаныя працягваць сваю дзейнасьць без рэгістрацыі, за што могуць быць прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167-10 КаАП Беларусі. За мінулы год мела месца прынамсі два выпадкі прыцягненьня да адказнасьці пагэтым артыкуле – сяброў "Маладога фронту" і "Зубра".

Гэты год быў адметны актывізацыяй дзейнасьці прафсаюзаў. Асноўнымі сродкамі дасягненьня мэтаў, а таксама прыцягненьня грамадзкай увагі сталі стыхійныя і арганізаваныя страйкі, мітынгі, пікетаваньні.

Асноўныя дзеяньні па нейтралізацыі працоўнага і прадпрымальніцкага руху былі накіраваныя на разбурэньне іх арганізацыйных структураў. Перш за ўсё гэта тычыцца прафсаюзаў, асабліва

(Працяг на стар.7)




Моманты 2001 году.

 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***14 сьнежня*** ў гарадзкім судзе г. Вілейка (Мінская вобласьць) судзьдзя Уладзімір Емельяновіч вынес рашэньне па адміністратыўнай справе ўдзельнікаў акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей" ***Уладзіміра Малярчука*** і ***Аляксея Сюдака***. Абодвум прысуджаны штраф у памеры 20 мінімальных заробкаў (прыкладна 200 даляраў США).

***18 сьнежня*** з 3 курсу хіміка-тэхналагічнага факультэту Магілёўскага дзяржаўнага тэхналагічнага інстытуту адлічаны студэнт ***Максім Гараіпаў***. Афіцыйны загад аб адлічэньні падпісаў рэктар інстытуту Чыжык І.А., і прычынай адлічэньня названы пропуск заняткаў без уважлівых прычынаў. Аднак працэдура адлічэньня была праведзеная з парушэньнем, паколькі, згодна са Статутам МДТІ, спачатку за дадзенае парушэньне павінна было быць вынесенае папярэджаньне. Прафсаюз студэнтаў, сябрам якога зьяўляецца М.Гараіпаў, ня даў згоды на яго. Сапраўднай жа прычынай адлічэньня Максіма Гараіпава зьяўляецца ягоная актыўная дзейнасьць у нядаўна ліквідаванай студэнцкай арганізацыі "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" і ўдзел у кампаніі "Выбірай!". Сябры Магілёўскага аддзяленьня БХК зьбіраюцца аспрэчваць незаконны загад рэктара МДТІ у судзе.

***18 і 19 сьнежня*** ў гарсудзе г.Баранавічы ішлі суды над удзельнікамі акцыі 9 сьнежня. Нагадаем, што ў той дзень адбылася акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей", прымеркаваная да чарговых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Падчас акцыі былі затрыманыя сябры незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр" ***Ю. Плотнікава, В.Дрозд*** і ***В.Кролікаў***, якія былі абвінавачаныя ў правядзеньні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства (арт. 167.1 КаАП РБ). 18 сьнежня В.Дрозд і В.Кролікаў заявілі, што нязгодныя з абвінавачаньнем у несанкцыянаваным шэсьці, што пратаколы былі вымушаныя падпісаць пад ціскам міліцыянтаў, якія ў адваротным выпадку пагражалі пакінуць іх у камеры да суда, а Юля Плотнікава заявіла хадайніцтва аб удзеле ў яе абароне адваката. Улічыўшы гэтыя акалічнасьці, судзьдзя Капачэўская прыняла рашэньне аб пераносе слуханьняў на наступны дзень. Цікавай была рэакцыя судзьдзі на хадайніцтва В.Кролікава аб допуску ў працэс свайго прадстаўніка ад ПЦ "Вясна". Яна сказала, што па заканадаўстве ягоныя правы можа абараняць толькі адвакат. На гэта сябры ПЦ "Вясна" С.Гоўша і Ул. Гоўша запярэчылі і спаслаліся на п. 5 Пастановы №1 ад 25.03.99 г. Пленума Вярхоўнага суда РБ. Пасьля азнаямленьня з Пастановай судзьдзя пагадзілася з праваабаронцамі. 19 сьнежня разгляд справы быў працягнуты. Суд выклікаў вялікую цікавасьць з боку мясцовых СМІ і грамадзкіх арганізацыяў, што, верагодна, паўплывала на рашэньні: усе трое абвінавачваемых атрымалі папярэджаньні.

***19 сьнежня*** ў судзе Ленінскага раёну г.Мінску пачалося судовае паседжаньне па крымінальнай справе ***Аляксандра Чыгіра*** сына М.Чыгіра – былога прэм'ер-міністра Беларусі, аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта на выбарах 2001 году, які абвінавачваецца па арт 205 ч.3 РБ у крадзяжах аўтамабіляў у асабліва буйных памерах, зьдзейсьненых арганізаванай групай. Нагадаем, што А. Чыгір быў арыштаваны 10 лютага 2001 году на аўтамабільным рынку ў Ждановічах. Юлія Чыгір, маці Аляксандра, адразу выказала ўпэўненасьць, што арышт малодшага сына – правакацыя, зьвязаная з удзелам Міхаіла Чыгіра ў палітыцы. Па словах адваката Дзьмітрыя Іванішкі, Аляксандр Чыгір з самага пачатку вінаватым сябе не прызнаваў і не прызнае.

***20 сьнежня*** па выніках праверкі гомельскага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" Дзяржаўным падатковым камітэтам па Чыгуначным раёне г. Гомелю 27.11.2001 году быў складзены акт аб спагнаньні ў даход дзяржавы штрафу ў памеры 6 млн. рублёў і перададзеныя матэрыялы ў суд Чыгуначнага раёну г. Гомелю. Згодна з гэтым актам, Гомельскае грамадзкае аб'яднаньне "Грамадзянскія ініцыятывы" абвінавачваецца ў нямэтавым выкарыстаньні замежнай дапамогі, што, на думку абвінаваўчага боку, зьяўляецца парушэньнем Дэкрэту № 8, падпісанага А.Лукашэнкам перад выбарамі. Цяпер матэрыялы з вынікамі праверкі і складзены акт перададзеныя ў суд. Калі апошні пацьвердзіць факт парушэньняў палажэньняў Дэкрэту № 8, далейшая дзейнасьць "Грамадзянскіх ініцыятываў" будзе пастаўленае пад пагрозу.

***21 сьнежня*** ў судзе Фрунзенскага раёну г. Мінску адбыўся разгляд адміністратыўнай справы па факце зьбіцьця ўдзельнікаў сустрэчы з выбаршчыкамі, сяброў ініцыятыўнай групы адзінага кандыдата ад апазіцыі Уладзіміра Ганчарыка падчас выбарчай кампаніі на станцыі метро Пушкінская 2 верасьня. Да сяброў ініцыятыўнай групы ***Ігара Крэбса*** і ***Дар'і Каткоўскай*** падышлі невядомыя маладыя людзі і жорстка зьбілі іх. Пры гэтым Дар'і Каткоўскай наносіліся ўдары па галаве. У аднаго з пацярпелых мінакоў, які заступіўся за агітатараў, было выяўленае лёгкае сатрасеньне мазгоў. Хуліганы былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі і дастаўленыя ў ГАМ №3 Фрунзенскага раёну Мінску. Аднак пасьля тлумачэньняў затрыманыя Кошаль Зьміцер і Ляскоўскі Сьвятаслаў былі адпушчаныя. У выніку разгляду справы З.Кошаль быў прызнаны невінаватым, бо пацярпелы і сьведкі ня здолелі даказаць, што менавіта ён наносіў пабоі. С.Ляскоўскі быў прызнаны вінаватым і атрымаў штраф у памеры 3 мінімальныя заробкі. Пацярпелыя не задаволеныя такім рашэньнем і зьбіраюцца зьвяртацца ў суд аб матэрыяльным спагнаньні стратаў, нанесеных іх здароўю.

***22 сьнежня*** на закрытым паседжаньні прэзідыуму Савету ФПБ ***Уладзімір Ганчарык*** заявіў, што сыходзіць з пасады старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай у сувязі з прызначэньнем на пасаду намесьніка старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў – арганізацыі, якая аб'ядноўвае найбуйнейшыя прафцэнтры краінаў СНД. Уладзімір Ганчарык займаў пасаду старшыні ФПБ з 1986 году і пацьвердзіў свае паўнамоцтвы на нядаўнім пленуме ФПБ. Незалежныя назіральнікі зьвязваюць сыход У.Ганчарыка з ціскам уладаў на ФПБ пасьля ўдзелу яе лідэра ў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў якасьці адзінага кандыдата ад апазіцыі.

***27 сьнежня*** Гомельскі гарадзкі суд пастанавіў, што старшыня моладзевага цэнтру "Гарт" ***Сяргей Адзінец*** парушыў Дэкрэт №8, які забараняе выкарыстоўваць у палітычных мэтах атрыманую ў якасьці замежнай добраахвотнай дапамогі аргтэхніку. Згодна з рашэньнем суда, кіраўнік "Гарту" павінен заплаціць штраф у памеры 1 млн. рублёў (прыкладна 637 даляраў ЗША). "Гарт" мае намер абскардзіць рашэньне гарадзкога суда ў абласным судзе.

***У сьнежні*** судзьдзя Вярхоўнага суда РБ Ганна Сакалоўская задаволіла просьбу Міністэрства юстыцыі РБ і вынесла рашэньне ліквідаваць грамадзкую арганізацыю ***Моладзевы іфармацыйны цэнтр***. На працягу гэтага году Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла Моладзеваму інфармацыйнаму цэнтру тры папярэджаньні. Першае — за парушэньне правілаў побыту ў Беларусі чэскага грамадзяніна Міхала Плаўца, які прыехаў у краіну па запрашэньні цэнтру, другое за тое, што адрас сядзібы не супадаў з юрыдычным адрасам арганізацыі, трэцяе за хібы ў афармленьні фармуляру. Пасьля гэтага Мінюст ініцыяваў разгляд у Вярхоўным судзе справы пра ліквідацыю арганізацыі. Кіраўнік Моладзевага інфармацыйнага цэнтру Алесь Міхалевіч упэўнены, што арганізацыю зьліквідавалі паводле загаду «зьверху». Аднак, нягледзячы на рашэньне Вярхоўнага суда, Моладзевы інфармацыйны цэнтр працягне сваю асноўную працу — дапамогу дэмакратычным грамадзкім арганізацыям у рэгіёнах Беларусі.

***У сьнежні*** Аршанскі гарвыканкам (Віцебская вобласьць) пастанавіў пазбавіць прадпрымальніцкай ліцэнзіі рэдактара незалежнай газеты "Куцейна" ***Віктара Андрэева*** "за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасьць". Згодна з гэтым абвінавачаньнем аршанскі гарадзкі суд некалькі месяцаў таму прыняў рашэньне аб канфіскацыі адабранай напярэдадні верасьнёўскіх прэзідэнцкіх выбараў рэдакцыйнай маёмасьці, у тым ліку кампутараў і рызографу. Але пракуратура і Віцебскі абласны суд вымушаныя былі адмяніць гэтае рашэньне і прыняць да ўвагі заяву Віктара Андрэева наконт парушэньняў падчас правядзеньня судовага паседжаньня. Такім чынам, віну рэдактара "Куцейны" да гэтага часу суд не прызнаў, і аршанскі выканкам, па словах Віктара Андрэева, відавочна пасьпяшаўся са сваім рашэньнем, якое загартаваны ў судовых спрэчках рэдактар зьбіраецца абскардзіць у абласным гаспадарчым судзе.

# Перасьлед працягваецца

## *Новыя факты звальненьняў за ўдзел у выбарчай кампаніі*

***У "Праваабарончы цэнтр "Вясна" працягваюць зьвяртацца людзі, якія былі зводьненыя з працы за ўдзел у выбарчай кампаніі.***

***20 сьнежня*** напісаў заяву аб тым, што ня можа ўладкавацца на працу пасьля звальненьня былы рабочы Гарадзенскага аб'яднаньня "Азот" ***Юры Кохна***. Падчас выбарчай кампаніі ён зьяўляўся назіральнікам ад Праваабарончага цэнтру "Вясна" на выбарчым участку ў вёсцы Жукевічы Гарадзенскага раёну, дакладней, у дзень выбараў ён ня быў дапушчаны назіраць за працэсам выбараў, як і ўсе назіральнікі ад гэтай арганізацыі. Але ягоная дзейнасьць не засталася незаўважанай адміністрацыяй "Азоту", і ў канцы кастрычніка ён быў звольнены. Спачатку была створаная камісія нібыта дзеля атэстацыі на працоўным месцы (хаця такая атэстацыя павінна была праводзіцца толькі ў 2002 годзе), якая "зрабіла выснову", што Юры Кохна ня можа працягваць працаваць вагоньнікам на прадпрыемстве. Пры гэтым начальнік цэху, у якім працаваў Ю.Кохна, сказаў: "Хочаш палітыкаваць, дык зараз у цябе на гэта будзе шмат часу".

***21 сьнежня*** ў Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуліся ***Сяргей Ляшкевіч*** і ***Максім Стасюкевіч***, якія таксама паведамілі пра звальненьні іх з працоўных месцаў.

Ляшкевіч Сяргей з г. Шчучыну працаваў на прадпрыемстве "Руткевічы", сярод супрацоўнікаў якога падчас выбарчай кампаніі актыўна вёў размовы, распаўсюджваў літаратуру. На гэтую дзейнасьць зьвярнула ўвагу кіраўніцтва, і ў хуткім часе С.Ляшкевіч быў выкліканы да дырэктара, які прапанаваў хлопцу звольніцца па асабістым жаданьні, бо ў адваротным выпадку будзе знойдзеная прычына, каб звольніць яго па артыкуле. С.Ляшкевіч працаваў у штабе кандыдата ў прэзідэнты С.Домаша, зьбіраў за яго подпісы, а калі С.Домаш зьняў сваю кандыдатуру, працягваў працаваць у штабе У.Ганчарыка.

Стасюкевіч Максім з в.Парэчча Гарадзенскага раёну працаваў акампаніятарам у аддзеле культуры санаторыя "Парэчча". Адпрацаваў на гэтай пасадзе сем месяцаў, а пасьля выбарчай кампаніі ў канцы верасьня быў звольнены. Падчас кампаніі М.Стасюкевіч быў затрыманы міліцыяй за распаўсюджваньне ўлётак пра адзінага кандыдата. Адміністрацыі санаторыю было пра гэта вядома, і ў канцы верасьня дырэктар А.М.Калодка папрасіў М.Стасюкевіча звольніцца па сваім жаданьні.

Звольненная ***13 верасьня*** з пасады загадчыцы аптэкі ў г.Маладэчна ***Нэлі Шлойда***, якая зьяўлялася раённым каардынатарам па незалежным назіраньні, ужо чатыры разы абскарджвала сваё звальненьне, але Маскоўскі суд г.Мінску прыняў рашэньне аб адмове ва ўзнаўленьні жанчыны на працоўным месцы.

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ "Вясна".**

# Зрухаў да лепшага не адбылося...

*(Пачатак на стар.4-5)*

пасьля таго, як яны выявілі сваю выразную апазіцыйнасьць. Палітыка ў адносінах да прафсаюзаў мела два накірункі: паступовае замяшчэньне кіруючых пазіцыяў у ФПБ лаяльнымі да ўлады асобамі (магчымы і раскол ФПБ) і зьнішчэньне свабодных прафсаюзаў, чаго можна дасягнуць адмовай у іх рэгістрацыі. У якасьці элементу кампаніі па нейтралізацыі прафсаюзаў можна ўзгадаць рашэньне ўраду, прынятае ў канцы 2001году, якое тычыцца парадку выплаты прафсаюзных складак.

Праблемы дыскрымінацыйнай культурнай палітыкі па-ранейшаму застаюцца нявырашанымі для Беларусі. Нягледзячы на усе намаганьні, так і не было прынятае рашэньне пра стварэньне вышэйшай навучальнай установы з беларускай мовай навучаньня, надалей праводзіцца палітыка зьніжэньня колькасьці навучэнцаў у беларускамоўных сярэдніх навучальных установах. Праводзіцца рэарганізацыя такіх установаў з паніжэньнем умоваў і ўзроўню навучаньня. Адзначалася стымуляваньне і культываваньне падазронага ці негатыўнага стаўленьня да беларускай культуры, мовы як нелаяльнай да выканаўчай улады і прыкметы апазіцыйнасьці.

Асобным эпізодам грамадзкага супрацьстаяньня ў Беларусі стала абарона Курапатаў. Увосень гэтага году стала відавочна, што будаўніцтва новай кальцавой дарогі вакол Мінску, пройдзе праз Курапаты. Кампанія супраць знішчэньня Курапатаў, як месца гістарычнае памяці беларусаў, пачалася ў канцы верасьня. Беларускія моладзевыя арганізацыі наладзілі кругласутачнае дзяжурства ў Курапатах. Былі ўсталяваныя дадатковыя памятныя крыжы. Праблема набыла грамадзскі рэзананс.

8 кастрычніка дзяржаўная кампанія, якая праводзіць рэканструкцыю дарогі, парушыла дамоўленасьці і пачала работы ў гэтаксванай "дэмаркацыйнай зоне" без нагляду археалагаў Інстытуту гісторыі НАН. Супрацьстаяньне людзей і АМАП вылілася ў сур'ёзныя сутыкненьні 8 і 9 кастрычніка. У выніку 40-45 чалавек было затрымана каля 25 былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці за супраціўленьне міліцыі (арт.166 КаАП) і ўдзел у несанцыянаваным мітынгу (167-1 КаАП). У якасьці пакараньня большасьць удзельнікаў абароны Курапатаў атрымалі штрафы. Затрыманьні суправаджаліся жорсткасьцю, прынамсі, выкарыстоўваліся сьпецсродкі – сьлезацечны газ.



Сябры "Зубра" з партрэтамі Андрэя Зайцава каля будынку КДБ.

# Выбраў сьмерць...

*(Пачатак на стар.2)*

паплечнікам па супраціву дыктатуры...

...Беларусь – адзіная краіна на постсавецкай прасторы, дзе КДБ захаваў і свой назоў, і сваю злачынную сутнасьць. Ягоная мэта – ня служба краіне і народу, а абслугоўваньне комплексаў дыктатара, задавальненьне яго жывёльнай жорсткасьці. Паўсюдна прадстаўнікі гэтай найстаражытнай прафесіі займаюцца запалохваньнем, вярбоўкай, шантажом моладзі. Іхняя мэта – зламіць волю маладых людзей да супраціву, ператварыць іх у "стукачоў".

Рух супраціву ЗУБР патрабуе:

– узбудзіць крымінальную справу па факце давядзеньня да самагубства супрацоўнікамі КДБ Андрэя Зайцава;

– галосна дасьледаваць гэтую справу і пакараць вінаватых у трагедыі;

– неадкладна спыніць вярбоўку, правакацыі і гвалт у адносінах да моладзі;

– выкананьня міжнародных абавязкаў, прынятых Рэспублікай Беларусь у галіне захаваньня правоў чалавека.

Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўных органаў:

– узгадайце аб сумленьні і афіцэрскай годнасьці, калі гэтыя словы нешта значаць для вас.

Мы зьвяртаемся да беларускай моладзі:

– агучвайце любыя факты застрашэньня, пагроз і спробаў сьпецслужбаў прымусіць вас даносіць;

– у выпадку пагрозаў і шантажу зьвяртайцеся ў праваабарончыя арганізацыі, у незалежную прэсу. Не падавайцеся на пагрозы, якімі б страшнымі яны ні падаваліся;

– будзьце салідарнымі, разам мы можам супрацьстаяць рэпрэсіям. Ніхто ня можа нам забараніць быць сумленнымі людзьмі.

Будзем разам, і Беларусь будзе вольнай!"

**Паводле газеты "Наша свабода".**

# Пад знакам "Пагоні"

## Сумныя развагі перад сустрэчай з годам 2002...

Хоць сто разоў паўтарай слова "халва" — у роце салодка ня стане. Тым ня менш на працягу свайго прэзідэнцтва Лукашэнка толькі гэтым і займаецца. "Жыццё на Беларусі наладжваецца!" – абвяшчае ён штогод з нязьменным аптымізмам і вар'яцкай самазадаволенасьцю мястачковага цыгана, які ўдала падмануў прасьцяка-селяніна, прадаўшы яму бяззубага нябогу-каня. За гэтым небясьпечным аптымізмам – састарэлы дыягназ хранічнай хваробы любога зацятага дыктатара, які пляваць хацеў на дабрабыт народу і шчыруе найперш дзеля захаваньня асабістай абсалютнай улады. Лукашэнка – ня выключэньне. Ён – кароль бессаромнай хлусьні, якая з першага дня яго кіраваньня ўзьведзеная ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Але ніводная лукашэнкаўская дэкларацыя наконт паляпшэньня жыцьця беларусаў так і ня выкананая! І ўжо на сёньня любыя абяцаньні хоць нейкім чынам падвысіць узровень дабрабыту людзей нічога, апроч раздражненьня, не выклікаюць. Нават у самых актыўных некалі прыхільнікаў прэзідэнта.

Закончыўся год зьмяі. Якім ён быў для нас? Найперш, годам прэзідэнцкіх выбараў. Годам нерэалізаваных магчымасьцяў.

Тыя, хто прагаласаваў за Лукашэнку ў чарговы раз, добраахвотна выбралі сваім лёсам далейшае жабрацтва. Лукашэнка з радасьцю пайшоў ім насустрач. І пенсіянеры, якія абедзьвюма рукамі прагаласавалі за свайго любімца, сёньня разгублена чухаюць патыліцы перад магазіннымі паліцамі. У параўнаньні з пачаткам году рэзка падскочылі цэны на малако, хлеб, кілбасу. Ды плюс кватрплата. Хто ж з гэтых дзядкоў ды бабулек, затлумленых дзяржпрапагандай, мог даць рады, што аплата іхняга жытла павялічыцца за гэты час ледзь не ўдвая! "Вось дык прэзідэнт!" – усё часьцей чуецца ў чэргах па пенсію. Ды і яна, гэтая жабрацкая пенсія ў 30-50 даляраў ужо выплочваецца там-сям у правінцыі нясвоечасова. Пенсіянеры, крыху аблашчаныя прэзідэнтам да выбараў, сёньня ледзь зводзяць канцы з канцамі. Ня ў лепшым становішчы іхнія дзеці і ўнукі.

Сёньняшнія беларусы сярэдняга веку нагадваюць габрэяў колішняга Савецкага Саюзу: яны з кожным днём усё больш пераконваюцца, што жыць тут немагчыма, перспектываў на хоць нейкую самарэалізацыю – аніякіх. Літаральна ўсе начальніцкія пасады, зьнізу да верху, займаюць людзі, асноўнай службовай перавагай якіх зьяўляецца не прафесіяналізм, а ўяўная адданасьць Лукашэнку. Таму дзейнасьць народнай гаспадаркі скіраваная на Беларусі не на агульнакарысны вынік, а на падтрымку бязглуздай антынароднай палітыкі вузкага кола дзяржаўных чыноўнікаў – старанных лёкаяў Лукашэнкі.

Вось яны, рэаліі году, які заканчваецца! Работнікі сельскай гаспадаркі Беларусі не атрымалі заробак за кастрычнік. Нават пры тым,што гэты віртуальны заробак больш нагадвае міласціну, бо не перавысіў у сярэднім 30 даляраў. Дамарослая калгасная вытворчасьць у чарговы раз распісалася ў поўнай сваёй бездапаможнасьці. Доказ таму – паліцы беларускіх крамаў, забітыя расійскімі прадуктамі. Датацыі ў сельскую гаспадарку склалі ў Расіі 7 даляраў на гектар, у Беларусі – 70. А аддача – нулёвая. Купляючы расійскую кілбасу (далёка ня лепшай якасьці) беларус "працуе" на ўмацаваньне расійскай эканомікі. Па той простай прычыне, што беларускай ужо не існуе.

Рабочыя большасьці мінскіх заводаў былі вымушаныя пайсьці са сьнежня на калядныя вакацыі. Няма грошай на аплату іх працы. Неканкурэнтназдольнымі беларускімі таварамі забітыя ўсе склады. Вытворчасьць пачала зьядаць сама сябе. Наладжваньне сапраўды рынкавых адносінаў, карэннае рэфармаваньне эканомікі з улікам нацыянальных інтарэсаў – засталіся ў марах. Было б дзіўна, каб Лукашэнка ўзяўся перарабляць закасьнелую таталітарную дзяржаву ў краіну, дзе дбалі б найперш аб правах чалавека. Ды што там эканоміка?! Ня без актыўнага ўдзелу ўладаў на ладан дыхаюць культура ды мастацтва. Не спыняецца самае дзікае цкаваньне людзей, якія не жадаюць думаць так, як думае Лукашэнка. Закрываюцца газеты, ствараюцца перашкоды разьвіцьцю ўсяго нацыянальнага і самабытнага. Грошай нестае на выданьне беларускіх кнігў. Гонар нацыі – пісьменьнікі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч на дзяржаўным узроўні абвешчаныя ледзьве ня ворагамі народу.

Чым добрым быў адметны год мінулы? На жаль, не прыгадаю.

Са сьнежня ўдвая падаражэў праезд у грамадзкім транспарце, але цана за квіток у 80 рублёў – не мяжа. Гаворка гэтымі днямі ідзе ўжо пра трайную падвышку. Між тым тэма сталічнага грамадзкага транспарту – тэма асаблівая. Замежнікі, якія ў час пік траплялі ў перагружаны вагон метро ці тралейбус, вар'яцеюць ад нечаканых і надта жорсткіх выпрабаваньняў. З-за кепскай арганізацыі руху з мінскіх ускраінаў праблематычна дабрацца да цэнтру гораду.

З трывогай кожны з нас чакае чарговага росту кватэрнай платы. Большасьці гараджанаў гэта будзе не па кішэні. Асобныя ўжо цяпер адмаўляюцца аплочваць жыльлёва-камунальныя паслугі. Асноўны аргумент: за што плаціць, калі ў кватэрах холадна! Так, у сувязі з марозным надвор'ем тэмпература ў кватэрах не падымаецца вышэй за 15-18 градусаў. Здаецца, беларусы ў гэтыя калядныя, але не надта радасныя дні, як ніколі яскрава адчулі сябе закладнікамі антычалавечай лукашэнкаўскай палітыкі. Яны ўжо ня вераць прэзідэнцкім прамовам "мы жывем кепска таму, што дрэнна працуем". Бадай, беларусы ніколі яшчэ так не працавалі, каб выжыць. Навукоўцы і настаўнікі, урачы і работнікі культурнай сьферы вымушаныя займацца камерцыяй альбо падпрацоўваць на двух-трох месцах. Амаль кожны са студэнтаў у час летніх вакацыяў сноўдае па замежжы ў пошуках працы, каб аплаціць сваё далейшае навучаньне ў Беларусі. У бацькоў на гэта ўжо не хапае грошай. Зьняверанія і падманутыя Лукашэнкам людзі з кожным днём становяцца больш жорсткімі і абыякавымі да таго, што адбываецца на іх радзіме. Улады ўмела маніпулююць гэтымі настроямі ў сваю карысьць. Замест дарагога хлеба – танная і кепская гарэлка, замест нацыянальнай культуры – балаганныя відовішчы кшталту "дажынак" і "славянскіх базараў". Па словах начальніка ўпраўленьня культуры Мінгарвыканкаму Віктара Кураша, навагодні феерверк 1 студзеня ля абеліску "Мінск – горад – герой" абыдзецца падаткаплацельшчыкам у 60 мільёнаў беларускіх рублёў. Нікому з дзяржаўных дзеячоў і ў галаву не прыйшло, каб падзяліць гэтыя грошы сярод жабракоў-бюджэтнікаў: настаўнікаў ці ўрачоў. Маўляў, галодны на мітынг пратэсту ня пойдзе, яму халтурыць ды падпрацоўваць трэба, а не з рэжымам змагацца...

Год зьмяі, год гада сканаў. Ён не прынёс нам палёгкі. Засталося толькі цьвёрдае пераканаўне, што рэжым Лукашэнкі цярпець больш намагчыма. Якімі б абнадзейваючымі абяцанкамі ён зараз ні раскідваўся, нават самая непісьменная і забітая палеская бабулька з-пад Брагіна яму проста не паверыць. Пачуцьцё звычайнага голаду ды холаду перашкодзіць. І ў хлусьні ж ёсьць мяжа. І якімі б абыякавымі мы зараз ні былі, свой лёс нам трэба вырашаць самім. Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў проста ня кожны дажыве.

Новы год – год Каня, год "Пагоні" ўладарна імчыць па краіне. Конь чакае свайго вершніка. Разумнага і дальнабачнага, гаспадарлівага і сумленнага. Ці ж няма ў Беларусі такіх?!.

Год "Пагоні" дае нам надзею!

**Алесь ГАРКУН.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"